Opłata pocztowa opłacona ry[czałtem]. Цана асобнага нумару 25 грошай

№ 8—(48). Год II.



# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

## ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Мастовая вул. № 9. кв 3. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8— 20 зл. За міліметравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## 4 сакавіка (марца) у нядзелю усе да выбарчых урнаў!

4 сакавіка (марца) галасаваньне ў Сойм. Гэта будзе якраз праз тыдзень, у нядзелю, у дзень сьвяточны. Усе грамадзяне ў гэты дзень вольны ад працы. Вольны і наш селянін і сялянка, Але ў нядзелю 4 сакавіка, ніводзін селянін і сялянка, якія маюць больш 21 году не павінны сядзець у хаце. **У гэты сьвяты дзень — трэба выканаць сьвяты абавязак грамадзяніна: трэба ісьці да выбарчае ўрны і кінуць нумар таго сьпіску,** на якім стаяць людзі, якіх шануем, паважаем, якім даверым лёс свой і лёс усяе дзяржавы.

Галасаваньне будзе адбывацца ад 9 гадзіны раніцы да 9 гадзіны ўвечары. Кожны, хто хоча хутчэй вярнуцца да дому, мусіць 4 сакавіка раней выйсьці з дому і заняць у калейцы (чарзе) галасуючых першае мейсца. Кожны мусіць узяць з сабою так сама і картку з нумарам. Які-ж нумар трэба з сабою ўзяць? Іх вельмі шмат. Мы радзімо ўзяць з сабою толькі адзін нумар — **нумар 1** і пры галасаваньні ўлажыць яго у канвэрт і палажыць у выбарчую ўрну. Мы радзімо гэта таму, што № 1 падтрымлівае Маршалка Пілсудскага, падтрымлівае яго ўрад, — найлепшы і найразумнейшы з усіх урадаў Польшчы. Мы радзімо галасаваць за № 1 таму, што толькі адзін Маршалак Пілсудскі маець у сваіх руках сілу, якая здолець направіць у Польшчы жыцьцё, завесьці справядлівы лад і парадак, правясьці аграрную (зямельную) рэформу, задавольніць сялянства танным крэдытам, зьменшыць падаткі, вырашыць справядліва нацыянальнае пытаньне, даць усім народам Польшчы школу ў роднай мове, правясьці роўнасьць усіх грамадзян перад законам і спыніць нацыянальную грызьню і шовінізм.

Рэшта сьпіскаў мусіць быць адкінута; асабліва-ж трэба асьцярагацца номара 18 — блёку гэтак званых „Нацыянальных Меншасьцяў", бо гэта блёк найгоршых ворагаў і здраднікаў сялянства — блёк жыдоўскіх спэкулянтаў, нямецкіх фабрыкантаў і запрадаўшыхся ім за грошы Ярэміча, Рагулі, Більдзюкевіча.

Номар 13 — камуністых, які ўсюды ў нашых акругох уневажнены, але за які будуць заклікаць галасаваць розныя шпіоны і правакатары, каб выклікаць забурэньні і арышты.

Нумар 3 — ці як кажуць „Вызваленьне", якое аканчальна збанкрутавала і развалілася.

Номар 20 — бо гэта сьпісак расейскае чорнае сотні, самых заядлых ворагаў беларускага адраджэньня.

Сьцеражэцеся так сама і тых сьпіскаў, якія называюцца „сялянска-работніцкімі", бо гэта сьпіскі „Грамады", альбо людзей цёмных і няведамых народу.

Усе галасы аддайце за сьпісак № 1 — адзіны сьпісак, за які будуць галасаваць усе сяляне ў Польшчы, бяз розьніцы нацыянальнасьці і веры.

# СЯЛЯНКІ! Галасуйце усе за сьпісак № 1.

Падыходзіць час выбараў у Сойм і Сэнат.

Паводлуг выбарчага закону Польскае Дзяржавы, пры выбарах у гэтыя найвышэйшыя заканад'ўчыя ўстановы, вы маеце аднальковае права з мужчынамі.

Нажаль варункі так склаліся, што ня гледзячы на поўнае зраўнаньне палітычных правоў вашых з мужчынамі — вы мала прымаеце ўдзелу ў палітычным жыцьці. На сходах, у гмінах і паветах, у самаўрадах за вас гавораць вашыя мужыкі, сыны і браты.

А так вас па ліку ў межах Польскае дзяржавы больш як мужчын. Вы ня меней чым вашыя мужыкі, браты і сыны зацікаўлены ў тым, як складаецца сельскае жыцьцё, бо цяжар гаротнага сялянскага жыцьця, на вашыя слабыя плечы кладзецца ня менш. чым на плечы мужчынаў.

Калі ў хату, вельмі часта ня з вашай віны, пачынае заглядаць нэндза і няма за што купіць хлеба — вы апошнія крошкі аддаеце дзеткам сваім. Голад тады вас найбольш даймае.

Калі няма за што абуць і апрануць дзяцей і яны мерзнуць зімою — вы апошнюю вопратку аддаеце ім.

Калі хвароба загляне ў хату — яна ўсім цяжарам сваім насамперш кладзецца на вашыя плечы.

Калі мужыкі вашыя, атуманеныя рознымі прайдзісьветамі, не пазнаўшы ваўкоў у авечай скуры, кідаюцца за імі ў палітычныя авантуры і пасьля пападаюць у вастрог — на вашыя плечы падае ўся гаспадарка, усе клопаты, як пракарміць сямейку.

Адапхнутыя ад уплыву на ўклад сялянскага жыцьця ў звычайны час, у рашучы дзень 4-га сакавіка (марца), калі будзе вырашацца справа, хто далей мае кіраваць жыцьцём дзяржавы, якімі законамі будзе жыць вашая вёска, вы, сялянкі, павінны выкарыстаць свае права і ўсе як адна ісьці і аддаць свае галасы, за тых людзей, якія сапраўды патрапяць наладзіць жыцьцё Дзяржавы і адчыніць шырокі прастор да спакойнай творчай працы, якая крок за крокам павядзе сялянства наша да дабрабыту і лепшае долі.

Якія-ж гэта людзі?

Да вас прыходзяць розныя людзі; кожны выхваляе свой сьпісак. За які-ж сьпісак павінны аддаць свае галасы нашыя сялянкі?

Ці за сьпісак розных крыкуноў-гарлапанаў, якія і цяпер, як пяць год таму назад, абяцаюць сялянству рай на зямлі і рэкі з кісельнымі берагамі і намаўляюць нашае сялянства да рэвалюцыі, да братабойчай вайны?

Ці сялянства нашае павінна аддаць свае галасы за тых прадажных людзей, якія пакум ўшыся з нямецкімі і жыдоўскімі банкірамі стварылі разам з імі гэтак званы „Блёк Нацыянальных Меншасьцяў" і па сьпіску № 18 разам з гэтымі банкірамі хочуць пралезьці ў Сойм сялянскімі галасамі, толькі для таго, каб там далей вясьці сваю агідную работу на карысьць жыдоўскага і нямецкага капіталу?

Ці, ўрэшце, за сьпіскі тых, нікому дагэтуль няведамых людзей, каторыя толькі цяпер падчас выбараў аб'явіліся па вёсках, як грыбы пасьля дажджу, і называючы сябе абаронцамі сялян і работнікаў—стараюцца ўсялякімі спосабамі здабыць сабе прыхільнасьць сялян?

На сотнях тысячаў сялянскіх сходаў у вёсках, гмінах і паветах выносяцца пастановы, каб на выбарах ніводнага голасу ня даць усім гэным ашуканцам і ўсё як адзін галасаваць у Сойм і Сэнат за № 1, на якім стаяць людзі згуртаваныя ў Беспартыйны Блёк Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага.

Чаму гэткую прыхільнасьць паміж сялянства здабыў сьпісак № 1, згадаць лёгка.

Сялянства ведае, што толькі людзі са сьпіску № 1 хочуць сапраўды і маюць моц і сілу наладзіць жыцьцё нашага краю, бо людзі са сьпіску № 1 увайшоўшы ў Сойм, будуць у Сойме супрацоўнічаць з Урадам Маршалка Пілсудскага.

Толькі людзі са сьпіску № 1 супольна з Урадам Маршалка Пілсудскага патрапяць наладзіць жыцьцё нашае вёскі, патрапяць правясьці справядлівую зямельную рэформу, дастаць для дробных гаспадароў танны і лёгкі дзяржаўны крэдыт, асушыць балоты, скасаваць шнуры, падняць сельскую гаспадарку, правясьці новыя і паправіць старыя дарогі, спыніць безработіцу, уцішыць скаламучанае рознымі палітычнымі прайдзісьветамі жыцьцё нашае вёскі, адным словам, стварыць на вёсцы прыхільныя варункі для ціхай, спакойнай працы, якая крок за крокам павядзе нашае сялянства да дабрабыту і лепшае долі.

Усё гэта добра разумее сялянства і адсюль яго прыхільнасьць да № 1.

І калі гэтую праўду зразумелі сяляне, то тым болей павінны зразумець яе нашыя сялянкі.

Больш гаруючы за мужчын, пры ўсялякіх устросках і раптоўных пераменах у жыцьці, больш ад іх зьвязаныя з штодзённай працай гаспадара-земляроба, выносячы на сваіх слабых плячох галоўны цяжар гаспадарчага бязладзьдзя, і вельмі часта бязьвінна пакутуючы з прычыны гарачнасьці і рызыканцтва сваіх мужыкоў, вы, сялянкі, лепш ад мужчын ўразумееце, што долю селяніна, долю яго сям'і палепшыць могуць ня шумлівыя абяцанкі розных прайдзісьветаў і ашуканцаў, у пагоні за каторымі можна страціць усё і не здабыць нічога, а спакойная ўпорная праца, якая пры дапамозе Ураду, дасьць сялянству дастатак, дасьць лепшую долю і пашану ў людзей.

Вось у дзень 4-га сакавіка (марца), калі прыдзе час выбіраць уСойм, усе як адна сялянкі нашыя павінны аддаць свае галасы за сьпісак № 1.

Дык памятуйце, сялянкі! У гістарычны дзень 4-га сакавіка, ў дзень. калі будзе вырашацца справа вашае сялянскае долі, вашых мужыкоў, братоў, сыноў і дзетак, кожная з вас павінна кінуць у выбарную скрынку картачку № 1 і дагледзець, каб і блізкія ёй мужчыны зрабілі таксама.

Дык у імя лепшае сялянскае долі, ў імя лепшае долі Вашае і вашых дзетак, усе як адна аддайце свае галасы за сьпісак № 1.

**Беларуская Радыкальная Народная Партыя.**

# № 1 БРАТЫ-БЕЛАРУСЫ! № 1

Ізноў да цябе, Беларускі Народзе, загаварылі языком і тонам найбольшых нашых ворагаў, абрусіцеляў нашага Краю, якія ў працягу ста з лішнім гадоў зьдзекаваліся над імем беларуса. Ізноў аджыў дух Мураўёва, дух царскага жандарма і ўрадніка ў постаці 20 № выбарнага расейскага сьпіску.

Пахолкі царскага рэжыму, прыслужнікі б. царскае ахраны, выкарыстоўваючы часовы крызыс у беларускім руху, выкарыстоўваючы разьбіцьцё беларусаў на партыі, вышлі з укрыцьця і паказалі сваю ненавісьць да ўсяго беларускага, паказалі сваё настаяшчае праўдзівае аблічча ворагаў беларускага народу, беларускае мовы і сьвятога для ўсіх беларусаў Ідэалу — Нацыянальнага Вызваленьня Народу. — Расейскае Народнае Аб'яднаньне (Русское Народное Об'единеніе) не прызнае нас, беларусаў, за асобны Народ, не прызнае за намі права на школу ў роднай мове, бэсьціць найдаражэйшыя нашыя скарбы ў імя нібы нейкае вышэйшае расейскае культуры, але сапраўды гэта робіцца дзеля таго, каб ізноў уцягнуць нас, беларусаў, у вайну за паварот на трон цара.

Сто з лішнім гадоў расейскі маскоўскі цэнтралізм нішчыў нас. 40 гадоў ад 1865 да 1906 г. было забаронена нам друкаваць і пісаць пабеларуску ў імя гэтае „высокае культуры расейскай", якая імкнулася зьнішчыць нас з нашай зямлі. Прысыланыя да нашага Краю царскія служкі, якія, прakраўшыся ў Расеі, прыходзілі сюды, на Беларусь русыфікаваць наш Край, нішчыць нашую мову, аселі тут, і вось іх сынкі і ўнукі, успомніўшы тыя „шчасьлівыя" для іхніх бацькоў часы, калі нагайка і царскі кнут гулялі па сьпінах беларусcіх сялян, „мужыкоў", як насназывалі, ізноў хочуць узяць нас, беларусаў, пад сваю „апеку".

І вось пайшлі гэтыя Мураўёўскія сынкі сяньня па нашых вёсках і чмуціць пачалі беларускае сялянства, каб здабыць сабе галасы яго і пралезьці ў польскі Сойм.

А ў Сойме яны будуць ісьці рука ў руку з усімі ворагамі нашага народу і працаваць на яго згубу і вынішчэньне, так, як гэта рабілі іх бацькі і дзяды, калі за беларускае слова, за песьню садзілі ў вастрогі і ссылалі ў Сібір.

Беларусы павінны гэтым аджыўшым прэтэндэнтам на нашу душу, на нашы скарбы, даць па руках, даць так моцна, каб ня было больш ахвоты лезьці ў нашу вёску і глуміцца над нашаю моваю, нашаю культураю, нашымі адвечнымі беларускімі скарбамі.

„Русское Народное Об'единеніе" — трэба раз і назаўсёды выгнаць з беларускіх абшараў, **бо яно хоча нашай нацыянальнай сьмерці.**

Выступаючы проціў русыфікатарскай працы РНО, мы гэтым аднак не выступаем проціў велікаросаў-старавераў, якіх мы шануем і якія разам з намі цярпелі ад царызму і яго слугаў і разам з намі дзялілі дабро і нядолю. Ашуканчым спосабам розныя багачы манархістыя Піменовы зацягнулі стараверскі камітэт у РНО, — але мы пераконаны, што а ніводзін старавер селянін, ці работнік ня пойдзець на ашуканства багача Піменова, ня будзе галасаваць за № 20, бо гэта сьпісак яго ворагаў і мучыцеляў.

Сяляне-беларусы! Падчас выбараў у Сойм дакажэце вашую нацыянальную сьведамасьць. Ніводнага голасу РНО — № 20 — былым царскім расейскім чыноўнікам і мураўёўскім сынком, адвечным ворагам беларускага адраджэньня!

**Выканаўчы Камітэт Б. Р. Н. П.**

**Вільня, люты 1928 г.**

## Галасуйце ўсе за сьпісак № 1.

## Апошнія навіны з выбарнага фронту.

Уся Віленшчына галасуе за сьпісак № 1.

### Мітынг Бес. Блёку ў Ігналіне.

9 лютага адбыўся ў Ігналіне падчас торгу мітынг. З прамовамі выступалі Р. Савіцкі і П. Гайдук. Прысутных было больш чым 150 асоб. Прысутныя на мітынгу выказаліся за сьпіскам № 1 — Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага.

Сяляне разабралі адозвы Беспартыйнага Блёку.

### Ашмяна за Урадам.

Як паведамляюць з Ашмяны, паўстаў там Камітэт Беспартыйных Кабет Блёку Супрацоўніцтва з Урадам. На чале Камітэту стаіць грам. Ганна Крыштафорская. Ашмянскія кабеты вядуць працу на карысьць сьпіску № 1.

### Мітынг у Лынтупах.

На гэтых днях адбыўся ў Лынтупах мітынг Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага, на якім было больш чым 200 асоб. Прысутныя выказаліся за Урадам Марш. Пілсудскага і за сьпісак № 1.

### Вёска за сьпіскам № 1.

Дня 11 лютага адбыўся ў вёсцы Мікалаеве, Дзісьненскага пав., сход сяброў мясцовага Земляробскага Гуртка. Па заканчэньні нарадаў да прысутных горача прамовіў дырэктар гімназіі ў Дзісьне др. Т. Станішэўскі, заклікаючы прысутных да працы ў Беспартыйным Блёку Супрацоўніцтва з Урадам. Вывады дырэктара Станішэўскага трапілі да перакананьня прысутных. Сабраныя ў ліку 100 асоб, аднагалосна прынялі рэзалюцыю, ў якой выказваюцца за Беспартыйным Блёкам Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага.

### Мітынг кабет у Сьвянцянах.

У Сьвянцянах 12 лютага г. г. адбыўся мітынг кабет. Прысутных было 300 асоб. Па заканчэньні мітынгу прысутныя вынесьлі рэзалюцыю, ў якой заклікаюць да працы ў радох Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага.

### Зьезд войтаў і сэкрэтароў Маладэчанскага павету.

Адбыўся нядаўна ў Ракаве зьезд войтаў, бурмістраў і сэкрэтароў Маладэчанскага павету. Зьезд быў добра арганізованы і прыгатаваны праз бурмістра п. Руткоўскага, войта Эйсымонта. Памагалі зарганізаваць зьезд п.п. Навіцкая, Прыляскоўская і Сьвіда.

У працягу зьезду на асаблівую ўвагу заслугоўвала прамова войта Гарадоцкае воласьці Барыса Ігнатовіча, знанага на тутэйшым грунце, як аднаго з сьвятлейшых дзеячоў б. Грамады. У доўгай і рачовай прамове пабеларуску, войт Ігнатовіч выясьніў адносіны папярэдніх урадаў да нацыянальных меншасьцяў, а асабліва да Беларусаў, і зьмену гэтых адносін ад тае пары, як

---

## Трагэдыя беларускага руху.

Адраджэньне Народу зьяўляецца сьвятой справай.

І яна вымагае асаблівага падходу да сябе, перад усім ідэолёгічнай чыстаты, шчырасьці і супольнага фронту культурных нацыянальных сілаў — інтэлігенцыі гэтага народу.

Разьбіцьцё інтэлігенцыі на паасобныя, варожыя сабе групы забівае адраджэнскую працу і ставіць пад знакам запытаньня яе пасьпех і будучыню. А ў кожным разе страшэнна аслабляе грамадзкую нацыянальную працу і выклікае недаверые масаў да свае інтэлігенцыі.

Яшчэ большая шкоднасьць расьцярушаньня інтэлігенцкіх сілаў для справы адраджэньня, калі яна спатыкае варожыя сілы з боку чужой нацыянальнай экспансіі.

Пачатая ў XX стагодзьдзі беларуская адраджэнская праца ўзгадавала, прыцягнула і згуртавала ў адну сям'ю беларускую народніцкую інтэлігенцыю. Аж да расейскай рэвалюцыі ўсе беларускія адраджэнцы і новае інтэлігенцкае пакаленьне, вырасшае падчас працы старэйшае групы, прапавала заадно, разам і толькі дзякуючы суцэльнасьці свае працы і лучнасьці з усімі ў ёй, асягнула вялікія вынікі.

Ведама і тады магла быць фракцыйнасьць, разыходжаньне ў тактыцы, але мэты і заданьні былі адны і яны заўсёды прамаўлялі больш да сэрца.

Заданьне ўзгадаваньня нацыянальнага пачуцьця і сьведамасьці беларускіх працоўных масаў, барацьба за лепшае матар'яльнае палажэньне іх, лучыла ўсіх беларускіх інтэлігентаў і згладжвала асабістыя спрэчкі і тактычныя разыходжаньві.

Беларускі Народ прадстаўляе аднаьітасьць з боку соцыяльнага складу — гэта сялянская маса і працоўныя нашых мястэчкаў, а так-жа адчасьці гарадоў.

Клясы буржуазныя — абшарнікі і багатае купецтва ў Беларусі да вайны і цяпер ня былі беларускімі. Такі соцыяльны склад даваў ужо да вайны ахвароўку беларускаму адраджэньню, як аднаьітаму радыкальнаму руху сялянскай інтэлігенцыі, якая, здавалася, заўсёды будзе сільнай і моналітнай.

Сельскія вучыцялі, гарадзкія інтэлігенты — дахтары, інжынеры, і г. д. — усё гэта лучылася ў працы на ніве нацыянальнага адраджэньня беларускага народу і гэта было сілай Адраджэньня і залогам яго пасьпеху.

Сум і жах апаноўвае беларускага інтэлігента, які захаваў здаровы гаспадарскі розум і незалежнасьць ад наросшых на беларускім палітычным грунце „партыяў“, які не прадаў яшчэ свабоды мышленьня за той ці іншы партыйны білет і не заразіўся партыйным лякайствам ці прыслужваньнем паасобным дзеячам.

Бо што-ж бачым? Што ні беларус — партыя. Кожная з іх, хоць часта сяброў яе зьлічыць можна на пальцах, апранулася ў догмат палітычнай не-

вынікі траўнёвага перавароту дайшлі аж да нас. Гэтая карысная зьмена ёсьць запаведзяй лепшага заўтра для беларускага народу.

Абгаварваючы справу прыбліжаючыхся выбараў, **прамоўца заклікаў ўсіх Беларусаў да дапамогі цяперашняму ўраду Маршалка Пілсудскага**, вызсьняючы, што лёяльнае ўстасункаваньне Беларусаў да цяперашняга ўраду дасьць магчымасьць і права Беларусам дамагацца належнай ім апекі і помачы з боку Дзяржавы. Варожыя адносіны беларускага насельніцтва да Польскае Дзяржавы зноў завогняць нацыянальныя адносіны, якія зьменшаюцца пры цяперашнім Урадзе, а якія выклікалі папярэднія ўрады.

Урад Маршалка Пілсудскага першы прышоў з працягнутай рукой да Беларусаў, прапануючы згоднае супрацоўніцтва двух братніх народаў, засяляючых наш край. Згоднае супрацоўніцтва перашкодзіць здраднай працы платных камуністычных агентаў, якія хочуць выклікаць тут беспарадкі і нездаваленьне.

**Маршалка Пілсудскага заклікаючага да згоднага супрацоўніцтва двух братніх народаў, мусім падтрымаць, а пры зьбліжаючыхся выбарах даказаць, што да асобы Маршалка Пілсудскага маем даверые,** а пачатак яго працы над аздараўленьнем нацыянальных адносін у нашым краі вітаем, як запаведзь згоднага супрацоўніцтва.

**Прысутныя на зьезьдзе войты і сэкрэтары, як прадстаўнікі насельніцтва Маладэчанскага павету выказаліся за Беспартыйным Блёкам Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага і заклікаюць аддаць галасы за сьпісак № 1.**

Па супольнай конфэрэнцыі, познай ночай зьезд закончыўся. Прысутныя вынесьлі якнайлепшае ўражаньне.

## Камітэты Беспартыйнага Блёку ў Горадзеншчыне.

**Друскенікі.** Паўстаў тут Камітэт Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага.

**У Горніцах.** З ініцыятывы валаснога сэкрэтара Ст. Карчэўскага, зарганізаваны Камітэт Беспартыйнага Блёку ў вёсцы Капцёўцы.

**У Лунне,** Горадзенскага павету, ў склад Камітэту Беспартыйнага Блёку ўвайшлі грам.—Ф. Шуроўскі старшыня, Шчырскі віцэ-старшыня, Я. Аразьнік сэкратар, М. Свойчык, Б. Урбановіч і Я. Шведа.

**З гэтага артыкулу відаць, што ўвесь Край, як доўгі і шырокі, выказваецца за Беспартыйным Блёкам Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага і народ гоніць партыйных агітатараў і будзе галасаваць за сьпісак № 1.**

## Перабудова зямельнага ўстрою ў Польшчы.

*(Што зрабіў урад Маршалка Пілсудскага ў галіне направы зямельных адносінаў).*

Вельмі важнай справай зьяўляецца для кожнага селяніна ведаць аб тым, якую дзейнасьць праяўляе ўрад у галіне зямельнай рэформы. Ува ўсіх дзяржавах пасьля вайны прыступілі ўрады да перабудовы зямельнага ўстрою, каб надзяліць зямлёю безьзямельных і малазямельных землямі скарбовымі, духоўнымі і абшарніцкімі, ліквідавалі сэрвітуты дарогай выдзяленьня з абшараў дворскіх зямлі для сялян замест істнаваўшага сэрвітуту; цераз нарэзку сялянскай зямлі на хутары

пагрошымасьці. А найгорш тое, што кожная на чало свае работы высунула бараць бу... з беларусамі, якія ня хочуць стацца яе сябрамі. Кожная партыя гаворыць ад імя ўсяго беларускага народу, кожная заяўляе, што яна прадстаўляе і бароніць беларускія працоўныя масы.

Працавіты, спакойны і шчыры Беларускі Народ стаўся об'ектам бесшабшнага торгу, спэкуляцыі і шантажу ў гэтай палітычнай... простытуцыі.

Сум і жах кладзецца на душу кожнага чэснага беларуса, калі ён захоча задумацца над гэтым.

Вайна і рэвалюцыя парадзіла цэлую плеяду недавучаных, а то і малаграматных „дзеячоў", якія, будучы няздольны да позытыўнае грамадзкае працы, сталіся цэнзарамі грамадзкіх абычаяў і палітычнай чэснасьці. Усе яны дум юць катэгорыямі рэвалюцыйнага часу, агітацыйна-мітынговымі мэтодамі, думаюць і прабуюць рабіць справу беларускага адраджэньня.

У выніку маем гумарыстыку беларускага палітычнага жыцьця, якая дае багаты матар'ял для „Маланкі". Гэткі абраз беларускае справы кідаецца ў вочы кожнаму.

Аднак, калі-б хваравітасьць беларускага руху вынікала толькі з выказаных прычынаў, было-б паўбяды.

Прычыны сяньняшняй хваравітасьці беларускага руху глыбейшыя.

Рыская мяжа разьдзяліла Беларускі Народ на дзьве часьці, якія маюць зусім адменныя ўмовы жыцьця. Ува Усходняй Беларусі пануе дыктатура камунізму і, як кожная дыктатура, узяла ў моцныя абоймы беларускі рух на Усходзе рыскае граніцы.

Заходняя Беларусь аказалася пад Польшчай, дзе зусім іншыя палітычныя абставіны, але і яны на грунце беларускага жыцьця адчуваюць на сабе блізкасьць камуністычнага ладу за ўсходняй граніцай Польшчы.

Ува Усходняй Беларусі беларускія адраджэнцы сталі на рэальны грунт, пастаўленыя перад альтэрнатывай — Чэка, Салаўкі ці камунізм, — яны неахвотна прызналі (спрабуйце, ня прызнайце!) камуністычную дыктатуру і атрымалі магчымасьць культурнае беларускае працы, вытаргаваўшы ад дыктатары значныя „канцэсіі" ў галіне гэтае працы. Праўда, што праца носіць пячаць „марксізму ў бухарынскай пераробцы", але, сьцьвярджаем тут, **дзякуючы прызнаньню дзяржаўных інтарэсаў ваюючага камунізму,** маюць магчымасьць культурнае беларускае працы. Гэрольдам Саветаў зьяўляецца III ці Інтэрнацыянал і ў імя яго можа створана г. зв. Беларуская Соцыялістычная Савецкая Рэспубліка, для агітацыйных мэтаў. Бо ж беларусы, як гэта добра ведама ўсім ўва, Усходняй Беларусі на палітычнае жыцьцё ніякага ўплыву ня маюць.

Умовы жыцьця ў Заходняй Беларусі іншыя. Польская палітыка тут, кіраваная ў беларускім пытаньні ідэолёгіяй эндэцыі ў найгоршым яе выданьні, змарнавала вялікія сымпатыі беларускага насельніцтва і б. паленафільскіх групаў, якія вы-

побач з прырэзкай абшарніцкай зямлі для малазямельных гаспадарак і ўрэшце дарогай даўгасрочнага нізкапрацэнтовага крэдыту (пазыкі). Перад польскім урадам зараз пасьля паўстаньня незалежнай Польшчы зьявілася таксама вялікая патрэба направы зямельных адносінаў.

Але дзякуючы таму, што ўсе істнаваўшыя да маёвага перавароту эндэцкія ўрады дбалі толькі аб тое, каб узбагаціць абшарнікаў, а ўсе сялянскія партыі, як „Вызваленьне", Пяст, Партыя Хлопска ніколі ня думалі шчыра аб направе сялянскага лёсу, пры гэтым заўсёды вялі паміж сабою барацьбу, дык у выніку такога палажэньня сяляне ў Польшчы і нашае сялянства на землях беларускіх аж да мая 1926 г. ні ад ураду ні ад Сойму ніякае направы не атрымала.

Зямля пашла для асаднікаў, пазыкі для абшарнікаў, а селянін, як і перад вайною, за цара, ня меў апекі, хоць істнавала міністэрства Зямельнай Рэформы, якое павінна было гэтую апеку і помач сялянству нашаму аказаць.

І толькі пасьля таго, як на чале Ураду стаў вялікі барэц за свабоду і права, Маршалак Язэп Пілсудскі, які ня вытрымаў зьдзеку над працоўнымі масамі, што аддавалі працу і кроў для дзяржавы, а ад яе нічога ня мелі, дзякуючы эндэцыі — паном і фабрыкантам, толькі пасьля маёвага перавароту ўрад Маршалка Пілсудскага стаў праводзіць разумную зямельную палітыку, якая направіла ўжо істнаваўшыя благія зямельныя адносіны. А ў будучым, ідучы па гэтай дарозе, урад Марш. Пілсудскага правдзе ўрэшце патрэбныя рэформы ў зямельным пытаньні, якія здаволяць слушныя пажаданьні сялянства беларускага і польскага.

Урад Маршалка Пілсудскага спыніў наступ асадніцтва на беларускія землі.

Ніжэй пададзены агляд працы ўраду Пілсудскага паказвае, што зрабілася ў галіне направы зямельных адносінаў у Польшчы.

Выдаткі з буджэту на міністэрства Зямельнай Рэформы, без якіх немагчыма зямельная рэформа, ўдвоіліся. У 1925 г. буджэт гэты выносіў 55 мільёнаў зл., а ў 1927 г. 120 мільёнаў злотых.

У 1925 г. пераведзена на хутары, але без папаўненьня малазямельных гаспадарак 68.118 дзесяцін, а ў 1927 г. 265,369 дзесяцін (у 4 разы больш).

На папаўненьне малазямельных гаспадарак у 1927 г. пашло 18.614 дзесяцін. У 1928 г. мае быць ужыта на папаўненьне 42.925 дзесяцін.

Балячкай сялянскіх зямельных адносінаў зьяўляюцца сэрвітуты. Папярэднія ўрады слаба праводзілі скасаваньне сэрвітутаў і толькі за ўрадаваньня Марш. Пілсудскага ліквідацыя сэрвітутаў пашла шпарка і ў кірунку дагодным для сялян.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| У 1919 г. зьліквід. | 62 | сэрв., | выдзял. | сял. | 259 | дз. |
| У 1920 г. | „ 192 | „ | „ | „ | 543 | „ |
| У 1921 г. | „ 1.481 | „ | „ | „ | 4.693 | „ |
| У 1922 г. | „ 1.142 | „ | „ | „ | 4.714 | „ |
| У 1923 г. | „ 2.408 | „ | „ | „ | 6.624 | „ |
| У 1924 г. | „ 4.021 | „ | „ | „ | 12.872 | „ |
| У 1925 г. | „ 5.597 | „ | „ | „ | 18.928 | „ |
| У 1926 г. | „ 12.406 | „ | „ | „ | 42.861 | „ |
| У 1927 г. | „ 20.549 | „ | „ | „ | 82.882 | „ |

З гэтае табліцы бачым, што за 1927 г. зьлквідована столькі сэрвітутаў за 1 год, колькі за 8 гадоў за ўрадаў папярэдніх.

Зямельная гаспадарка вымагае дзяржаўнае

---

явіліся ў беларусаў адносна Польшчы. Нейкія варожыя беларусам і самой Польскай дзяржаве сілы панавалі ў беларскім пытаньні пад Польшчай.

Якраз гэта было на руку палітыцы III-га Інтэрнацыяналу, які ўмела ствараў цераз сетку агентураў прыхільнасьць да савецкага ладу ўва Усходняй Беларусі.

Бяскрытычна прыймалася, як вялікае асягненьне беларусаў, што істнуе Беларуская Соцыялістычная Рэспубліка, дзе цяпер кіруе ўсім „кат Беларусі" Кнорын, а перад гэтым данскі казак Крыніцкі.

Бяскрытычна прыймалася што раз шырэй думка, што там, у Б. С. С. Р., рай для беларусаў.

Як гіпноз з году ў год пашыралася гэта сярод беларускае інтэлігенцыі і паўінтэлігенцыі, якая тут аказалася без работы і церпіць нэндзу.

Бяскрытычна шырыцца пагляд, быццам ува Усходняй Беларусі ёсьць свабоднае нацыянальнае беларускае жыцьцё. Тым больш такі пагляд знаходзіць пашырэньне, што сьвядомыя беларусы з Усходняе Беларусі ня могуць усебакова высьвятліць настаяшчага палажэньня свайго ані ў прэсе, ані ў прыватных лістох. Бо крытыка з іх боку таго, што дзеецца пад камуністычнай дыктатурай, грозіць ліквідацыяй самога крытыка.

Фармальнае істнаваньне г. зв. Б. С. С. Р. стварае тут, у Заходняй Беларусі, пэўныя настроі сярод беларускага грамадзянства, якія памагаюць пашырэньню ідэолёгіі III Інтэрнацыяналу.

Гэтая ідэолёгія, успамаганая субсыдыямі з Усходу, вытварае дзіўнае ў нас зьявішча, што не камуністыя, далёкія ад думак аб сусьветнай рэвалюцыі і вядомыя няпрыхільнікі камуністычнага ладу, лічаць нейкім антыграмадзкім паступкам выступленьне проціў камуністычных уплываў у беларускім жыцьці.

З гэтым трэба скончыць. Хай беларусы ў Б. С. С. Р. робяць сваю нацыянальную работу ў тых абставінах, якія ім дыктуе жыцьцё.

Беларускае сьвядомае грамадзянства ў Заходняй Беларусі ня мае права ісьці на авантуры і працаваць на карысьць камуністычнай дыктатуры. Беларускае сялянства яе зусім ня хоча. Культурная аўтаномія для беларусаў ува Усходняй Беларусі не зьяўляецца для нікога такім высокім ідэалам, дзеля якога трэба падкопваць усялякія магчымасьці культурнае і палітычнае працы ў нас.

Беларуская інтэлігенцыя павінна прызнаць умовы жыцьця пад Польшчай, зрабіць належны вывад і ў рамах польскае Конституцыі на грунце польскае дзяржаўнасьці рабіць тут тое, што робяць беларусы на Усходзе.

А прызнаўшы дзяржаўнасьць Польшчы, мы здолеем вывесьці справу Адраджэньня на легальны шлях рэальнае адраджэнскае беларускае працы ўва ўсіх галінах грамадзкага жыцьця. *Д.*

пазыкі на куплю зямлі, інвэнтару жывога і мёртвага, на малачарні, на завядзеньне садоў, на штучныя гнаі і г. д. — без малапрацэнтовае даўгасрочнае пазыкі з дзяржаўнага банку нельга паправіць гаспадаркі. I тут толькі ад другой паловы 1926 г., калі на чале ўраду стаў Маршалак Пілсудскі, бачым вялікую паправу. Дзяржаўны Зямельны Банк мае цяпер у 7 разоў больш грошай, чымся меў у 1926 годзе, бо закладны капітал гэтага банку ў 1926 г. лічыў 13.925.000 зл., а ў 1927 г. узрос да 100.000.000 зл.

Лік выданых з Зямельнага Дзяржаўнага Банку пазыкаў узрос з 630.000 зл. у 1926 г. да 37.000.000 зл. у 1927 г. бяз мала ў 60 разоў.

Гэтыя лічбы паказваюць, што ў галіне зямельнай рэформы і дапамогі, толькі ўрад Маршалка Пілсудскага стаў памагаць сялянству шчодрай рукой, чаго да 1926 г. ня было.

## Чаго будуць дамагацца паслы Беспартыйнага Блёку супрацоуніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага.

Паслы Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага будуць дамагацца ў галіне гаспадарскага жыцьця.

Безплатнага пераходу на хутары.

Надзелу дробных гаспадарак да нормы 10 гэктаровай гаспадаркі.

Прызнаньня правоў уласнасьці доўгалетнім арэндатарам.

Крэдытаў на мэліорацыю, будовы шосаў, мастоў і г. д.

Адшкадаваньня для землякоў пацерпеўшых на абшары Савецкай Расеі, асабліва будзем дамагацца каб былі зьвернены ашчаднасьці, зложаныя на кніжкі ў Банках і Касах Расейскіх.

У галіне самаўрадаў:

Разшырэньня правоў Самаўрадаў і ўтварэньне ваяводзкага Самаўраду.

У галіне падаткавай:

Злучэньня рожнародных падаткаў у адзін і сьцягіваньня яго 2—3 ратамі зімой.

**Будзем дамагацца, каб земляробства было пастаўлена на высокасьці заданьня. Вёска мусіць быць даведзена да дабрабыту, так каб сялянін меў пад дастаткам збожжа і малочных прадуктаў ня толькі для пражываньня сябе і свае сям'і, але каб мог з прадажы гэтых прадуктаў жыць у дастатку, вучыць сваіх дзяцей, папраўляць свой дабрабыт праз куплю земляробскіх прыладаў, завядзеньне садоў, будову дамоў і гаспадарскіх будынкаў. так як гэта ёсьць у цэнтры Польшчы, або загранiцай Гэта можна будзе асягнуць толькі тады, калі зарганізуецца шырокі крэдыт для земляробстеа.**

У галіне нацыянальнай.

Стасаваньня грамадзка-палітычных і культурных свабодаў засьцярэжаных канстытуцыяй і законамі.

Школы ў роднай мове.

Доступу прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў да ўрадаў.

Свабоды нацыянальнага і рэлігійнага жыцьця.

Паслы Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага дамагацца будуць як найвялікшай матэрыяльнай дапамогі з боку дзяржавы на гаспадарскія патрэбы сялянства.

## Урад Маршалка Пілсудскага праводзіць у нашым краі чугунку Друя-Варапаева.

Усе ведаем, якім вялікім дабром для людзей ёсьць чугунка. Самая будова насыпу і ўкладаньне шынаў даець шмат добрых заробкаў акалічным людзям. Апрача таго дзякуючы чугунцы, лягчэй сялянам прадаць у месьце свае прадукты, як малако, масла, сыр і іншыя. Калі чугунка ўжо праведзена, паўстаюць новыя заробкі, адчыняюцца фабрыкі, вырубка лесу, заробак на фурманках і г. д. **Асабліва насельніцтву Пастаўскага і Брацлаўскага паветаў важна, што Урад Маршалка Пілсудскага пастанавіў правясьці чугунку з Варапаева да Друі.**

Праца каля правядзеньня новай чугункі пачнецца яшчэ ў 1928 годзе.

## Заместа адказу газэце „Нашая Бацькаўшчывна.

У № 1 газэты Я. Станкевіча „Нашая Бацькаўшчына", зьмешчаны недарэчны артыкул проціў „Беларускага Дня".

Ня лічым патрэбным палемізаваць з доктарам Янкай Станкевічам сягодня, пагаворымо праз масяц. Пабачымо тады і можа зразумеем, што такое дэмонстрацыя за № 1 і што такое ігра ў „крапленыя" карты, пабачым тагды,—ці лепей ворага біць проста ў лоб, — ці біць ворага так, як гэта робіць пан доктар з-за вугла, ці лепей адкрытая, шчырая пазыцыя, — ці тыя „акопы" — ў якія схаваўся пан Станкевіч і якія называюцца нейкаю „правіцаю" Грамады. Шкода вас, пане Станкевіч,—бо калі вы лічыце, што мы „працуем па загаду начальства",—то як-жа пазволіце кваліфікаваць вашу работу? На гэтым наш адказ вам канчаем.

**— Чаму ідзём галасаваць за сьпісак № 1?**

**— Таму, што сьпісак № 1 ёсьць сьпіскам Ураду Маршалка Пілсудскага, сына нашае зямелькі, нашага Абаронцы і найлепшага Кіраўніка Дзяржавы.**

**— Што ў Вас на нумярках?**

**— Нумяркі нашыя без плямаў, без надпісаў, на другой старане таксама нічога не напісана. Стаіць толькі 1.**

**— Чаму нумяркі павінны быць без надпісаў і на другой старане чыстыя?**

**— Бо інакш, нашыя галасы прызнаюць за няважныя, а мы хочам перамогі ПІЛСУДСКАГА, перамогі сьпіску № 1.**

1

Вашы мучыцелі, царскія слугі і агенты царскае ахранкі— зноў пасягаюць на нашу беларускую мову і нашу культуру.

**Ні воднаго голасу „Рускаму Народнаму Аб'единенію“ № 20, бо яно хоча нашае нацыянальнае сьмерці, бо „Русское Народное Об'единеніе“—закляты вораг нашага адраджэньня і нашае свабоды.**

Ганіце ад сябе проч агэнтаў і агітатараў № 20.

Ніводнага голасу ворагу Беларускага Народу—№ 20.

**Галасуйце усе на № 1.**

1

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Што можна зрабіць пры хутарскім гаспадараваньні.

Якую карысьць можаць прынясьці земляробу хутарское гаспадараваньне, на старонках „Беларускага Дня“ ня раз пісалася і здаецца ўжо ня варта было-б закранаваць гэтага пытаньня, але на гэты раз трэба-б было выявіць яшчэ адну добрую старану хутарнага гаспадараваньня, каторае, як мне здаецца, патрабуе асабістай увагі пасярод нашых землянабаў. Дзела ў тым, што земляробы па вёсках мала зьвяртаюць увагі на годнасьць свайго насеньня. Большай часткай нашы вясковыя гаспадары сеюць чым папала, ня ведаючы таго, што часта значная колькасьць гэтага насеньня трухлеець у зямлі, а каторая зярнё і ўзойдзе, дык бяз усялякай жыўнасьці, што і зьяўляецца прычынай неўраджаю.

У больш культурных старонках, гаспадары земляробы даўно ведаюць, якую карысьць прыносіць у гаспадарцы культурнае насеньне і дзеля атрыманьня гэткага насеньня ўстройваюць „Сельска-Гаспадарчыя Пітомнікі“.

Пітомнікам называецца частка зямлі ў $^1/_{16}$, $^1/_8$ ці інш. колькасьці зямлі, на якой можна было ўзгадаваць патрэбную для гаспадаркі колькасьць насеньня. Гэты кавалак зямлі ўгнойваецца і выпаліваецца якнайлепш. Дзеля засеву пітомніка загатаўляецца зярнё самае лепшае і робіцца гэта так: як толькі ўжо прышла пара жаць, бяруць ножніцы, ідуць па ніве і сьцінаюць паўнейшыя каласы ў кошык, потым каласы высушваюць на сонцы і пераціраюць іх рукамі, каб гэткім спосабам вымалаціць зярняты. Каб не пакалечыць зярнятаў, палкамі ці цапамі вымалочваць ня радзіцца. Здабытае гэткім спосабам зярнё сеецца ў пітомніках шмат радзей, бо пры радзейшым пасеве пшаніца, жыта і авёс, спасобныя кусьціцца, набываюць гэтую спасобнасьць да высокага ўроўня.

Што тычыцца ўборкі хлеба ў гэтых пітомніках, дык трэба высьцерагацца ня зжаць выбраныя каласы, каторых ужо тут будзе многа, не дасьпеўшымі, а так сама ня даць перастаяць ім, каб часам, ня высыпаліся самыя буйныя зярняты.

Сьцятыя каласы раскладаюць на посьцілкі і сушаць на сонцы, потым малоцяць якім-небудзь ручным спосабам, каб часам ад вымалочваньня іншым спосабам не пакалечыць найбуйнейшых зярнятаў.

Гэткім простым і танным спосабам кожны гаспадар можаць узгадаваць сабе часьць добрага насеньня, каторым ужо ў першым годзе будзе мець магчымасьць засеяць частку свайго поля. Адборнымі зярнятамі сабранага ўраджаю ад абсеянага поля насеньнем, узгадованым у пітомніку, гэтым разам ужо можна будзе засеяць усё свае поле.

Калі гаспадар усьцяж будзе ўзгадоўваць колькасьць насеньня ў пітомніку і кожны год будзе ўсё браць адборныя зярняты дзеля засеву гэтага пітомніка, то на астатак цераз 3—4 гады будзе мець насеньне высокай культуры.

Засеяўшы свае поле гэтым культурным насеньнем, гаспадар убачыць карысьць: у яго пасевах ня будзе сьмяцьця, ўраджай павысіцца ў некалькі разоў і зярнё атрымаецца буйнае, здаровае і важкае.

Выбражаю сабе, як-бы дорага плацілі іншыя гаспадары за такое насеньне, калі-б дзе такое аказалася і якая-б была ад грамадзянства падзяка таму гаспадару, каторы гэтым практыкаваўся.

Нажаль пры вясковым гаспадараваньні гэтага бадай зрабіць немагчыма ў тым выпадку, што калі і ўзгадаваў-бы хто ў сваім пітомніку насеньне, дык рэзультаты ад ураджаю будуць ня зусім адпаведныя, бо ўжо, пры нашай абрыдлай цераспалосіцы, гэтыя культурныя пасевы, растучыя радам каля суседавых някультурных пасеваў, пяройдуць ад вядомых прычын (апыленьне, засьмячэньне перанесенае ветрам) з парой у някультурны стан.

Вось гэтае ўсё даказваець, што пераход ад вясковага гаспадараваньня на хутары ёсьць пажаданым і ў дзеле ўзгадаваньня культурнага насеньня і скарыстаньня з яго, ў культуры якога адчуваецца па нашых Беларускіх вёсках вялікая патрэбнасьць.

*Янка Тарыкаў.*

**Жадаем бясплатнае камасацыі!**

## Вясновая праца ў садзе.

Як ведама кожная зіма прыносе для садовых дрэваў тыя ці іншыя шкоды, якія кожны садавод павінен аглядзець яшчэ вясной, каб яны ў далейшым часе не зьявілі на дрэва свайго кепскага ўплыву.

Пры аглядзе саду вясной, асабліва трэба зьвярнуць увагу садаводам на тое, каб ня было на дрэвах надламаных сучкоў ад цяжару зімовага сьнегу, дзеля таго, што абломваючыся гэткія сучкі зьдзіраюць са сподняй старонкі кару, ад чаго часта атрымліваюцца на дрэве раны, якія пасьля вельмі цяжка загаіць. У гэткіх выпадках неабходна гэткія надламаныя сучкі зразаць так, каб на застаўшайся іх частцы ня было-б месца з ацадранай карой; месца зрэзу абавязкава трэба замазаць садовай замазкай—садовым варам. Далей, пры аглядзе дрэваў, можа зьявіцца і так, што канцы некаторых сучкоў бываюць папсаваныя марозам і таксама могуць загнівацца, дык гэткія адмёрзшыя часткі трэба зрэзваць вострым нажом.

Затым могуць быць у садзе дрэвы, асабліва маладыя, пашкоджаныя зайцамі, дык апошнія трэба старацца абавязкава залечваць, дзеля таго, што яны самі сабой адздараўліваюць вельмі цяжка і калі ня прыймаць ніякіх дапамогаў дзеля іх адздараўліваньня, то дрэўца можа загінуць.

### а) Прыгатаўленьне садовага вару.

Для прыгатаўленьня садовага вару бяруць па роўнай вессвой частцы—каніфолі, воску і сала, і ўсё гэта распускаюць у кацялку на агні ня высокай тэмпэратуры, пры чым масу ў час награваньня патрэбна зьлёгку памешваць. Калі гэтыя часткі ўложаных у кацёл рэчаў распусьцяцца і кіпяць, пасьля чаго кацёл зьнімаецца і масу выліваюць у зімную ваду. Калі гэты раствор добра атстыне вар, можна лічыць гатовым, але перш чым ім карыстацца патрэбна звольніць яго ад вады, дзеля чаго масу адціскаюць рукамі на дошцы змазанай дзервянным алеем (маслам). Добра выціскаваны і мягкі вар да ўжываньня трымаецца ў зімным месцы.

### б) Прыгатаўленьне замазак.

Для залечваньня ран, нанесеных зайцамі, вопытныя садаводы рэкамандуюць рознага роду саставы (замазкі) дзеля абмазваньня пашкоджаных месцаў на сьцябле; гэтыя замазкі прадасьцерагаюць таксама абгрызеную частку сьцябла ад высыханьня і маюць вялікае значэньне пры адздараўліваньні раны.

Самая дзяшовая і практычная будзе замазка прыгатаваная з наступных састаўных рэчаў: на 16 частак сьвежага кароўяга калу бяруць на 8 частак сухой вапны (старой штукатуркі) і прасеянага цераз сіта дзеравянага попелу, і 1 частку рачнога пяску; з гэтых састаўных частак прыгатаўляюць цеставобразную масу, якая і накладваецца на раны ў паўпальца таўшчынёй; а затым гэта месца прысыпаюць парашком прыгатаваным з 6 частак дзеравянага попелу і 1 часткі крэйды.

Акрамя вышменаванай замазкі магчыма ўжываць з той жа пользай і другую, больш простую, састаячую з роўных частак сьвежага кароўяга калу і гліны, зьмешаных з вадой да цеставобразнага састаяньня; і гэту зьмесь, дзеля большай вязкасьці надта добра прыбаўляць стрыжанай кароўскай, ці авечай шэрсьці. Гэта замазка накладваецца на раны слоем да $^1/_2$ вярш. і абкручваецца бінтом прыгатаваным з палатна. Паступаючы гэткім чынам пры залечваньні ран на сьцёблах, ёсьць поўная надзея, што яна загоіць гэту рану, але каб гэтае загаеньне ішло хутчэй, практыкі радзяць, перш чым накладваць тую, ці іншую замазку, рану абвязаць чыстым палатном, а ўжо паверх яе накладваць слой замазкі; ў такіх выпадках гаеньне раны адбываецца хутчэй і ня толькі з краёў, а па ўсёй яе паверхні.

*С.*

---

## Торф, як падсьцілка.

Прыдатнасьць торфу на падсьцілку залежыць ад яго сорту. Спатыкаюцца два сарты торфу: маладшае фармацыі з доўгімі валокнамі і старэйшага паходжаньня з кароткімі валокнамі, цёмнага колеру. Найлепшым для падсьцілaньня будзе торф першага гатунку. Ён ня курыць і вельмі добра ўбірае ў сябе жыжкі і газы. У нас спатыкаецца рэдка, часьцей маем цёмны торф. Але хоць ён і зьяўляецца горшым матар'ялам для падсьцілaньня, адн.к прыкрыты саломаю, якая не пазволіць вытварэньню пылу, прыносіць вялікую карысьць і ўзбагачвае гной патрэбнымі газамі і жыжкамі. Там, дзе быдла, ці коні стаяць на гнаі, добра перасыпаць гной слоем высушанага на паветры торфу, бо ён убірае аманьяк і ўзбагачвае гной. Трэба класьці торф на самы спод стайні ці хлява на зямлю. Ён затрымае ўвесь мокры гной, не дапусьціць, каб жыжкі пранікалі ў зямлю і марнаваліся, а, апрача таго, пазволіць зьберагчы салому, якой бяз торфу трэба класьці больш, хочучы мець стойла сухое. Перад тым, як браць торф на падсьціл, трэба яго добра прыгатаваць. Нельга класьць у хлеў торфу зараз, выкапаўшы яго. Торф мусіць пераляжаць на паветры, і высахнуць.

Падсьцілаць можна толькі сухім торфам, бо інакш ён ня будзе трымаць у сабе жыжак.

У высушаным на сонцы торфе знаходзіцца 20% ($^1/_5$ часьць вагі яго) вады. Такі торф вельмі добра ўбіраець ваду, ўдвая больш, чымся салома. Апрача таго, торф убірае і затрымлівае ў сабе газы, ўзбагачвае гной азотам і ачышчае паветра ў стайні. Падсьцілаючы торфам, будзем мець заўсёды чыстае, добрае паветра ў хляве і стайні. Торф ня толькі папраўляець гной і ачышчае паветра, ён забівае шмат бактэрыяў, якія могуць папасьць у гной. Такім чынам, падсьцілаючы торфам, можам уберагчы коні і быдла ад заразных хваробаў.

Сьцверджана, што малако кароў, якія стаяць на тарфяной падсьцілцы, здаравейшае і лепшае.

Торф зьяўляецца добрым матар'ялам на гной, бо мае шмат патрэбных і карысных для расьліны кармаў. Перш за ўсё торф мае шмат тых кармавых матар'ялаў, якімі багаты чарназём. Багаты торф на азот, вапну і фосфар, якраз тое, што патрэбна для кожнага збожжа і расьлінаў. Дзеля гэтага, кожны селянін павінен падсьцілаць коні і быдла торфам, за які ня трэба плаціць грошай, а які павялічыць і паправіць гной. А бяз гною трудна сабраць добры ўраджай.

(„*Tygodnik Rolniczy*").

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Вульлі з саломы.

Ужо надта даўно некаторыя з пчаляроў шукалі новага спосабу будаваньня вульлёў, з якоганебудзь таннага матар'ялу. У гэтым шуканьні на першым месцы стаялі два пытаньні: па-першае, хацелася пчаляром самым, уласнымі рукамі будаваць вульлі, а як-жа збудаваць вулей, ня будучы сталяром, дый яшчэ і фаховым, ня ўмеючы, як гэта гаворыцца, трымаць гэбля у руках? Вось тут і стаяла галоўнае пытаньне: а ці ня можна вульля збудаваць і бяз гэбля? Аказалася, што можна. Цяпер асталося адказаць на другое пытаньне. Які трэба ўзяць да гатага матар'ял, каб ён быў і добры, і танны, і моцны і трывалы? Не аставалася ніякага сумліву, што да гэтага найляпей надаецца салома, бо яна якраз адпавядаець гэтым двум варункам. Аставалася толькі трэйцяе пытаньне: якім спосабам будаваць гэтыя саламяныя вульлі? І тут ужо ня так лёгка можна было адказаць. Трэба было перажыць цэлую эвалюцыю спосабаў будаваньня рамовых саламяных вульлёў, пакуль нарэшце пчаляры дайшлі да новага сучаснага, найлепшага спосабу будаваньня. Першым, хто ўпаў на меней болей рэальны помысел будаваньня саламяных вульлёў, быў Д-р Цясельскі, (той, каторы сканструяваў свой славянскі вулей); ягоны спосаб будаваньня саламяных вульлёў, можна сказаць, быў вельмі прымітыўны, але ў тым яго заслуга, што гэта быў першы помысел; ад яго, можна сказаць, запачаткавалася новая эра ў будаваньні вульлёў, якая пайшоўшы па раз выбранай дарозе, дапяла ўжо сяньня свае мэты, і я думаю, што не далёка той час ў які пчаляры будуць карыстацца толькі выключна саламянымі (таннымі і лёгкімі кожнаму да зрабеньня) вульлямі. Помысел Д-ра Цясельскага быў у тым, што ён пачаў плясьці (не рабіць) гэтак званыя саламяныя кошыкі бяздонкі. Гэты вулей саламяны бяздонак мала розьніцца ад калоды. Гэтак сама ён круглы, цесны і бяз рамак; але паміма гэтага лёгкі, цёплы і надта танны.

Ня буду тут дакладна апісваць спосабу будаваньня гэтага вульля, бо сёньня якраз мала хто зьверне на гэта ўвагі і мала хто яго будзе рабіць і ўводзіць на сваёй пасецы, дзеля таго, што мы маем сёньня новыя, болей лепшыя спосабы будаваньня, паводлуг якіх можам зрабіць з саломы вулей рознай сыстэмы,—і Дадана і Лявіцкага і славянскі, адным словам, вулей якой хочучы сыстэмы, ўзяўшы да гэтага адпаведнае правіла. Аб бяздонках Д-ра Цясельскага скажу толькі, што яны пляліся спосабам, якім плятуцца саламяныя каробкі, толькі ў тым розьніца, што скруткі саломы былі шмат таўшчэйшыя і што гэтыя скруткі ня так, як у каробцы, перапляталіся надаўгад лазою ці лыкам, але перапляталіся яны, абвіваючыся навакола адумысна зробленага правідла, так што вульлі выходзілі заўсёды аднолькавыя. Правідла гэта рабілася гэтак: браліся два кругі з дзерава, найляпей з дошчак-дылёвак, маючыя ў дыямэтры адзін—295 мілімэтраў, другі—200 мілімэтраў. Потым бралася 18 ці 20 тонкіх, з моцнага дзерава, плашкаў, а вышыні меней болей 400 міл., якія моцна прыбіваліся цьвікамі навакол першага правідла, другі круг прымацоўваўся ў ніжніх канцох плашкаў і правідла было гатова; цяпер навакола яго толькі трэба было віць салому ў адзіны суцэльны скрутак і сшываць яе лазою; давёўшы да канца мы мелі кадаўб, прырабіўшы да яго дно, стрэшку і зрабіўшы рамку ў сярэдзіну, такую, якая робіцца ў калодах-стаяках, каб пчолкі мелі за што зачапіць вузу і зрабіўшы ляток,—мы мелі саламяны вулей. Як бачым, спосаб надта прымітыўны і лёгкі, так што кожны пчаляр мог яго практыкаваць; ня мог гэты спосаб будаваньня бяздонак утрымацца дзеля таго, што з ім пачалі канкураваць навейшыя спосабы, якія яго аканчальна і вывялі з жыцьця. Што да гэтых новых спосабаў будаваньня вульлёў з саломы, то трэба сказаць, што яны можа яшчэ болей лягчэйшыя, але патрабуюць надта вялікай дакладнасьці ў памерах. Бо, ведама-ж, каб збудаваць вулей Дадана, трэба надта дакладна ўсё і ўсюды вымераць. Прыступаем да рабеньня саламянага вульля сыстэмы Дадана-Блата гэтак (спосаб які я тут буду апісваць, ёсьць нашым уласным вынаходам, бо скажу, што брат мой фаховы пчаляр-практык і пры тым надта здольны вынаходца ў гэтай галіне; не ўзаручыся абсалютна ні на кім, узімку 1926 году выдумаў свой уласны прэс да рабеньня саламяных сьценак, бо-ж разумеецца, што толькі сьценкі робяцца з саломы, а ўсе другое: шаляваньне, стрэшка, дно і ножкі робяцца з дзерава.

Вульлі якія мы з ім рабілі гэтым спосабам здабылі сабе прызнаньне сярод усіх фаховых пчаляроў і былі абдараныя двумя грашавымі нагародамі на выстаўках у Стоўпцах (месяц верасень 1927 году) ў колькасьці 50-цёх залатых і ў Баранавічах (канец верасьня 1927 г.) у колькасьці 50-ці залатых і пахвальным лістом Цэнтральнага Саюзу Землярobскіх Гурткоў).

Спосаб гэты выглядаець гэтак. Перш-наперш робім прэс для цісьненьня сьценак. Дзеля гэтага бяром дубовую ці бярозавую, з двух бакоў добра агабляваную, плашку, таўшчэйшую за дылёўку. Зьмераўшы таўшчыню падвойных сьценак вульля Дадана, адмерваем гэты разьмер пасярэдзіне нашае плашкі. Па абодвух баках гэтага разьмеру праздзёўбываем квадратныя дзіркі, ў якія потым устаўляем бярозавыя калкі. Калкі гэтыя павінны быць добра згабляваныя з унутранага боку і павінны быць пастаўлены адзін насупроць другога, па-другое, павінны быць пастаўлены на такую даўжыню, якую маець сьценка вульля ў вышыню, дзеля таго, што сьценкі цісьнуцца не ў стаячым палажэньні, а ў ляжачым. На кожныя два супраціўныя калкі павінна накладацца зробленая з стальнога дроту скобка, а гэта дзеля таго, каб калкі гэтыя, як мы будзем цiснуць салому, не парасьпіраліся і тым не пакрывілі сьценкі вульля. Цяпер прыступаем да цісьненьня самай сьценкі. Перш на-перш на дно нашага прэсу кладзём дзераўяны квадратны стоўпчык, з гэткімі стоўпчыкамі робяцца толькі дзьве сьценкі, другія дзьве робяцца бяз стоўпчыкаў, але ўжо, разумеецца, на столькі мілімэтраў меншыя, колькі маюць два стоўпчыкі разам, бо-ж стоўпчыкі даюцца як зьнізу, так сама і зьверху, а гэта дзеля таго, што калі мы потым возьмем нашыя чатыры сьценкі: дзьве наабапал з стоўпчыкамі і дзьве бяз стоўпчыкоў, і змацуем іх паміж сабою, паставіўшы аднолькавыя сьценкі насупроць сябе, то якраз атрымаем *квадратны* корпус вульля Дадана. Дык вот, значыцца, пала-

жыўшы на дно прэсу квадратны стоўпчык, бяромся да саломы. Ужываем, разумеецца, толькі жытнюю здаровую, ня гнілую, салому. Спачатку чэшам яе, каб ачысьціць ад драбнаты, ад зельля і ад пер'я, на адумысных шчотках, зробленых з *вялікіх* цьвікоў, (гэтак сама, як і шчоткі да часаньня лёну). Ачысьціўшы, гэткім чынам, салому, потым адрэзваем чысьценка каласы. Кладзём гэтую салому ў наш прэс і сьціскаем яе моцна, потым кладзём ізноў ачышчанае саломы і ізноў прыціскаем бомкаю. Наклаўшы гэткім чынам патрэбную колькасьць саломы, кладзём на верх прыгатованы стоўпчык, (у той сьценцы, ў якой гэтага стоўпчыка ня трэба, кладзём адумысную дзеравяную, даволі моцную, бланку), накладаем на гэта ўсё нашыя жалезныя скобкі, (па адной на кожныя два стоўпчыкі) і, ўсадзіўшы нашую бомку (паварот) пад якую-небудзь моцную падставу, (ёю можа быць жалезны клямар прымацованы да сьцяны будыніны), насядаем на яе і цісьнем да адказу. Як ужо болей ціснуць немагчыма, дык умацоўваем нашую бомку, каб яна не адыйшла і тым не аслабіла саломы, і прыступаем да сшываньня сьценкі дротам. Да гэтага бяром мягкі тонкі дрот (такі, якім нашыя сяляне аплятаюць гаршкі) і, прымацаваўшы яго моцна да ніжняга, намі паложанага, стоўпчыка, пускаем на два бакі канцы і потым, праколваючы салому ў адступах 5-ць сантымэтраў, *моцна* шыем дротам, як шаўцы сшываюць дратваю тавар. Даехаўшы да верху, канцы дроту моцна замацоўваем да верхняга стоўпчыка. Калі гэтага стоўпчыка няма, то проста закручваем дрот на версе саломы, разумеецца не бяручы разам і той плашкі, якую мы спачатку палажылі на версе саломы. Гэткім чынам сшываем сьценку ў тры рады (швы). Зрабіўшы чатыры сьценкі, зьбіваем іх паміж сабою, ставячы сьценкі бяз стоўпчыкаў паміж сценкамі з стоўпчыкамі і маем ужо корпус вульля Дадана. Цяпер толькі трэба зрабіць дакладнае ашаляваньне на рагох вульля, акапы, ляткі, якія выпілоўваюцца ўнізе саламянае пярэдняе сьценкі тоненькаю пілачкаю, дно, прыбіць пазы для вешаньня рамак, зрабіць стрэшку, як і заўсёды робіцца, памаляваць дзерава іншага колеру хварбаю, а салому іншага (трэба маляваць па два разы, як і заўсёды) і маем ужо гатовы, лёгкі, танны, гігіенічны і цёплы вулей.

Гэткім чынам можна рабіць вульлі розных сыстэмаў, памятуючы толькі аб тым, што на кожную сыстэму трэба мець новы прэс і новы дакладны памер сьценак.

*Пчаляр.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## Суд „Грамады“.

23 лютага распачаўся ў Вільні суд над сябрамі Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

Гэта найвялікшы палітычны працэс у дзеях Віленскага Суда, а нават судоў усяе Польшчы. На лаве абвінавачаных засела 56 чалавек, бароніць іх каля 20 адвакатаў. Вызвана блізка 1000 сьведкаў.

А гадзіне 7-ай раніцаю ў турэмнай карэце перавязьлі з Лукіскай турмы ў Суд абвінавача-

1

1

1

1

ных. Суд ахраняецца паліцыяй, усе карыдоры ў сярэдзіне Суда абсаджаны паліцэйскімі. Уваход у судовую салю па білетах. Для сьведкаў прыгатавана асобную салю.

А гадзіне 10 мінтт 30 у салю Суда ўводзяць абвінавачаных, першым уваходзіць б. пасол Бр. Тарашкевіч. Цераз некальк мінут уваходзіць суд у складзе: старшыня А. Овсянко, судзьдзі А. Ёдзевіч, Барэйко і Бжозоўскі. За пракурорскім сталом сядаюць пракуроры Калапскі і Коркуць.

Перад абвінавачанымі за асобнымі сталамі засела абарона: Бабянскі, Сьмяроўскі, Эттінгэр, Дурач і Гоніквіль з Варшавы, Абрамовіч, прафэсар Пэтрусэвіч, Крыжаноўскі, Прэйс, Раманкевіч, Мат'яш, Залкінд, Сянкевічанка, Варатынскі, Марціноўскі і Сольц.

За другім сталом сядзяць прадстаўнікі прэсы мясцовых віленскіх газэтаў і варшаўскіх, на працэсе відзім прадстаўніка Тасс'у (афіцыяльнай савецкай агенцыі), „Маскоўскіх Ізвестій" і нью-іорскае газэты „Forwets'а".

У салі прысутныя жонкі і сёстры абвінавачаных.

У першы дзень суд спраўдзіў прысутнасьць сьведкаў і прыводзіў іх да прысягі. Абарона ўнясла прапазыцыю, каб суд вызваў сьведкаў, пададзеных цераз абарону.

Ад 24 лютага аж да 28 будзе адчытвацца акт абвінавачаньня. Пасьля ад 1 да 13 сакавіка наступіць перарыў дзеля таго, што якраз у гэты час адбудуцца выбары ў Сойм і Сэнат.

Працэс „Грамады" вызывае ў Вільні зацікаўленасьць. Аб ходзе працэсу будзем пісаць у наступных нумарох.

## Як галасаваць?

Каб чытачы „Бел. Дня" ведалі, як галасаваць падаем наступнае.

I.

**Галасаваньне адбываецца так: выбаршчык, падышоўшы да стала, за якім сядзіць выбарная камісія, кажа сваё імя і прозьвішча. Па спраўджэньні праз сябра камісіі, які вядзе пратакол, ці імя і прозьвішча выбаршчыка ёсьць у сьпісках выбаршчыкаў, выбаршчык дастае ад камісіі адштэмпляваны канвэрт да галасаваньня, кладзе у канвэрт картку з нумаркам да галасаваньня і аддае канвэрт Старшыні Камісіі, каторы, спраўдзіўшы штэмпэль на канвэрце і ня гледзячы ўнутры яго, укідае канвэрт да выбарнае урны (скрынкі). Адначасна сябры камісіі ў абодвух экзэмплярах сьпіскаў выбаршчыкаў адзначаюць, што выбаршчык голас аддаў.**

II.

**Галасаваньне пачынаецца а 9 гадзіне раніцай, трывае без перарыву да гадзіны 9 вечара.**

III.

**Галасаваньне адбываецца пры помачы картак да галасаваньня. Карткі да галасаваньня мусяць быць белыя. На картцы можа быць напісана толькі цыфра або словамі нумар сьпіску кандыдатаў, за які выбаршчык галасуе.**

**Нумар можа быць надрукованы або напісаны.**

Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі.
Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3